Ф. Янкоўскі

# БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ ПАРАЎНАННІ

## Кароткі слоўнік

Выдавецтва «Вышэйшая школа»
Мінск 1973

Параўнанне — сродак распазнавання, пазнавання, нават успрыняцця рэчаў, і не толькі рэчаў. Параўнанне ва ўсіх, без выключэння, мовах — яркі паэтычны сродак.

Параўнанне пачуеш, калі касец расказвае пра навальніцу, якая заспела яго на лузе. Параўнанне сустрэнеш у мове пісьменніка, калі той апісвае штосьці ці разважае або аддае свайму герою маналог. Параўнанне вычытаеш у навуковым трактаце пра рост расліны. Параўнанне напаткаеш у апавяданні падарожніка пра дзівосы незнаёмых краёў і краін.

Параўнанне дапамагае хлапчуку і дзяўчынцы ўбачыць і пачуць навакольны свет. І параўнанне дапамагае вучонаму расказаць

людзям пра законы развіцця грамадства, пра будову атама і нескончонасць сусвету.

Ужо зроблены спробы стварэння фразеалагічных слоўнікаў. Наспеў час распачаць складанне слоўнікаў параўнанняў (як і слоўнікаў перыфрастычных зваротаў і эпітэтаў) беларускай мовы. У нас яшчэ па сутнасці няма вопыту ў гэтай справе. Ясна адно: параўнанні народна-дыялектнай і літаратурнай мовы трэба падаваць асобна. Калі фразеалагізмы і перыфразы вымагаюць абавязковага тлумачэння, то пераважнай большасці параўнанняў тлумачыць не трэба; параўнанні з літаратурнай мовы неабходна падмацаваць ілюстрацыйнымі прыкладамі з твораў. Можна прапанаваць некалькі прынцыпаў будовы слоўнікаў параўнанняў, а сярод іх рацыянальныя два:

алфавітны і тэматычна-ідэалагічны; першы найлепш прыдатны да слоўніка параўнанняў народнадыялектнай мовы, другі, відаць,— да слоўніка параўнанняў літаратурнай мовы.

...У гэтую невялічкую кніжку трапіла толькі частка беларускіх народных параўнанняў, запісаных і раней і ў наш час ад жнеек і кавалёў, ад пастухоў і цесляроў, ад інтэлігентаў і тых дзядуляў-пенсіянераў, якім не было ад каго, не было калі пазнаць таямніцы і загадкі кніжнай мудрасці.

На пачатку стварэння гэтага слоўніка мелася на мэце шырока і грунтоўна паказаць беларускае параўнанне. Але перасцерагала тое, што спроба павінна быць спробаю. З часам, можам спадзявацца, створыцца такі слоўнік, які адлюструе багацце беларускіх народных параўнанняў, разнастай-

насць параўнальных канструкцый: паралелізмы, адмоўныя параўнанні, канструкцыі з *аж*, *хоць*, з формаю вышэйшай ступені тыпу *сінейшы за васілёк (за васілька)* і іншыя; пакажа разнастайнасць злучнікаў (часціц), якія сустракаюцца ў параўнаннях *(зіхнула, бытта зорка ўпала; павярнуўся, як мядзведзь; рвануў, што воўк; лепей жонка першая, нячым тая другая; лепей жонка першая, нячым тая трэцяя; лепей дома хлеб аўсяны, чым на вайне пытляваны* і інш.). Калі ў маёй картатэцы паўтараецца тое ці іншае параўнанне некалькі разоў і з рознымі злучнікамі *(круціцца, як уюн; круціцца, што ўюн; круціцца, быццам уюн; круціцца бы ўюн; круціцца, бытта ўюн* і інш.), то перавага аддаецца варыянту параўнання са злучнікам *як*, што з усіх злучнікаў у беларускіх па-

раўнаннях ужываецца найчасцей. Падаваць жа ўсе варыянты ў гэтым слоўніку няма ні патрэбы, ні неабходнасці. Ёсць тут частка выслоўяў з творным параўнання тыпу *ляжыць калодаю*, а таксама сфразеалагізаваных параўнанняў — кампаратыўных фразеалагізмаў тыпу *ababраць, як ліпку; адзін, як вока; стаіць, як урыты; жыве, як у бога за пазухаю.*

У першым раздзеле прыводзяцца параўнанні, узятыя з народнай гутарковай мовы; адна частка іх — з друкаваных крыніц (са зборнікаў Е. Раманава, М. Федароўскага, А. Сержпутоўскага і іншых збіральнікаў фальклору), другая — з уласных запісаў (1944—1959 гг.). У другім раздзеле — выслоўі з народных песень [1].

---

[1] Дапамагла сабраць і спарадкаваць матэрыял гэтага раздзела І. Янкоўская.

Слоўнік параўнанняў — чацвёртая з запланаваных мною пяці кніг, прысвечаных беларускай фразеалогіі (гл. надрукаваныя «Беларускія прыказкі, прымаўкі», Мінск, 1962; «Крылатыя словы і афарызмы», Мінск, 1960; «Беларуская фразеалогія», Мінск, 1968) у яе шырокім разуменні.

Спадзяюся на ўвагу чытачоў да гэтага слоўніка. Спадзяюся і чакаю, што неўзабаве атрымаю і пажаданні на палепшанне гэтага збору, і крытычныя заўвагі да яго структуры ці старонак, і тыя народныя параўнанні, якія не трапілі на старонкі гэтай кніжкі.

Мой адрас: Мінск, 4, Паркавая магістраль, д. 5, кв. 6.

Баба як гром.

о

Багаты, як зямля.

о

Багата (сліў, вішань), як расы.

о

Багата, як лісця (як травы).

о

Багата, як гразі.

о

Багата, як зорак на небе (у небе).

о

Багата, як іглiцы ў бары.

о

Багата, як на галаве валасоў.

о

Багаты, як чорт рагаты.

о

Багацця, як у пагарэльца.

о

Базар як вір.

о

Баіцца (марозу), як француз.

о

Баіцца, як агню.

о

Баіцца, як астрогу.

о

Баіцца, як воўк авечкі.

о

Баіцца, як воўк ягняці.

о

Баіцца, як гадзюкі.

о

Баіцца, як даносчыка.

о

Баіцца, як заразы.

о

Баіцца, як кот сабакі.

о

Баіцца, як леташняга снегу.

о

Баіцца, як мух узімку.

o

Баіцца (холаду), як прусак.

o

Баіцца, як смерці.

o

Баіцца, як халеры.

o

Баіцца, як чорт крыжа.

o

Баіцца, як чорт ладану.

o

Баіцца, як шалёнага (кручанага) сабакі.

o

Баіцца, як шалёны сабака вады.

o

Балбоча, як пацеры гаворыць.

o

Балбоча, як цецярук (як удод).

o

Барабаніць, як пустая бочка.

o

Бачыць, як птушка (як арол, як сокал).

o

Баязлівы, як заяц.

o

Бегае (лётае), як блёкату аб'еўшыся.

o

Бегае, як з ланцуга сарваўшыся.

o

Бегае, як мыш абсмаленая.

o

Бегае, як падсмалены.

o

Бегае, як рыцыны (рыцынавага алею) глынуўшы.

o

Без клопату, як дзіця.

o

Без прылады (без начыння), як без рук.

o

Белабокі, як сарока.

o

Белы, як засланка [пра вельмі чорнае].

o

Белы, як лебедзь.

o

Белы, як малако.

o

Белы, як палатно.

o

Белы, як папера (паперка).

o

Белы, як смерць.

o

Белы, як снег.

o

Белы, як сцяна.

o

Б'ецца, як галубка падстрэленая.

o

Б'ецца, як рыба аб лёд.

o

Бледны, як пятак медны.

o

Блізка, як пад носам.

o

Блізка, як рукою дастаць (падаць).

o

Бліснула, як воўчае вока.

o

Бліснуў, як воўк.

o

Бліснуў, як шкельца.

o

Блішчыць, як воўчае вока [пра слабы агеньчык].

o

Блішчыць, як золата.

o

Блішчыць, як лысіна.

o

Блішчыць, як люстэрка.

o

Блішчыць, як насмалены.

o

Блішчыць, як самавар.

o

Блішчыць, як светлячок.

o

Блукае, як цень.

o

Больш дзіва, як піва.

o

Борзды, як рысак.

o

Босы, як цюцька.

o

Боўтнуў, як камень у ваду.

o

Бразнуўся, як сноп на ток (з поду).

o

Броўкі як сярпочкі.

o

Броўкі як шнурочкі.

o

Брудны, як свіння.

o

Брыдкая, як чапля.

o

Брэша, як сабака (дурань) на месяц (на вецер).

o

Будзь багаты, як зямля.

o

Будзь вясёлы, як сват на вяселлі.

o

Будзь здаровы, як вада.

o

Будзь здаровы, як дуб.

o

Бухае, як у бочку.

o

Бухае, як у бубен.

o

Буркуюць, як галубкі.

o

Бы сыр у масле качаецца (пялегуецца).

o

Быццам хто языком злізаў.

o

Б'юцца, як пеўні.

o

Бядуе, як на пажарышчы (пагарэлішчы).

o

Бядуе, як позна ажаніўшыся.

o

Бяжыць, як жарабя за кабылаю.

o

Бяжыць, як жару ўхапіўшы.

o

Бяжыць, як з шыбеніцы (вісельні) сарваўся.

o

Бяжыць, як на пажар.

o

Бяжыць, як падсмалены.

o

Бяжыць, як сабака за возам.

o

Бяжыць, як цень за баязліўцам.

o

Бялейшы за снег.

о

Бярыся, як галодны за хлеб.

о

Бярэ, як багатага за жывот.

о

Бярэцца, як агонь.

о

Бярэцца, як назаўтра (налета) трэба.

о

Бярэцца, як рапей (ваўчкі) за адзетак (за адзенне, за вопратку).

о

Валасы як з дроту.

о

Валасы як лён.

о

Валасы як у русалкі.

о

Валасы як шоўк (як з шоўку).

о

Валачэ, як кот селядца.

о

Валачэцца, як сабака за возам.

о

Валіцца, як націна.

о

Валіць, як на вала.

о

Валіць, як на каня.

о

Валіць (гаціць), як у процьму.

о

Валяецца, як ламачына.

○

Валяецца, як свіння.

○

Варочаецца, як мядзведзь.

○

Ведае, як аблупленую казу.

○

Ведае, як ліхога шэлега.

○

Ведае, як свае пяць пальцаў.

○

Век звекаваў, як адзін дзень згуляў [лёгка прайшло жыццё].

○

Век зжыў, як мех сшыў.

○

Весела, як на ігрышчы.

○

Весела, як рыбцы на кручку.

○

Відаць, як ліхая (падраная, падзёртая, кепская) шапка.

○

Відная (ноч), хоць іголкі збірай.

o

Віляе, як сабака.

o

Вісіць (адзенне), як на коліку.

o

Вісіць (адзенне), як на пудзіле (пугале).

o

Вісіць, як сабака на разніцы.

o

Возіцца, як з дудою.

o

Войска як хмара.

o

Войска (ішло) — хмара хмараю.

o

Вольна, як на траўцы.

o

Вольны, як вецер.

o

Вольны, як птушка (як птах).

o

Вольны, як рыба ў нераце.

о

Вольны, як хмарка.

о

Востры, як брытва.

о

Востры, як кінжал.

о

Востры, як цвік.

о

Вочкі як (дзве) вішанькі.

о

Вочкі як зоркі.

о

Вочкі як пралескі.

о

Вочы як слівы.

о

Вочы, як у жабы.

о

Вочы, як у злодзея.

о

Вочы, як у казла.

о

Вочы, як у рыбы.

o

Вочы, як у савы.

o

Вочы, як у свінні [малыя і салам заплылі].

o

Вусцішна, як на могілках (уночы).

o

Вусы, як у рака.

o

Вусы, як у таракана.

o

Вусы як шчотка.

o

Вушы, як у зайца.

o

Выбіраецца, як чайка за мора.

o

Выгадаваў, як кветачку ў садочку.

o

Выгнала, як тычыну.

o

Выгналі (усіх чыста), як сонца пчолак.

o

Выгоністы, як хвоя.

o

Вые, як воўк (на месяц).

o

Вые, як у піліпаўку воўк.

o

Выкачаўся, як свіння ў гразі.

o

Выкручваецца, як вуж (як гад).

o

Выкручваецца, як скурат на агні.

o

Выкручваецца, як уюн.

o

Вылізаны, як з-пад каровы.

o

Вылузаўся, як арэх з шапачкі.

o

Вылупіў вочы, як сава.

o

Вылупіўся, як кот.

о

Вылупіўся, як сава.

о

Вымак, як памак.

о

Вырабіў зямлю, як пальцамі перамацаў.

о

Вырабіў зямлю, як пух.

о

Вырачыў вочы, як баран на новыя вароты.

о

Вырачыў вочы, як жаба.

о

Вырачыў вочы, як сава.

о

Вырваў, як з воўчых зубоў.

о

Высах, як былінка.

о

Высах, як мядзведзева лапа.

о

Высах, як перац.

o

Высах, як струк.

o

Высах, як таран.

o

Высах, як трэска (на трэску, у трэску).

o

Высах, як шкілет.

o

Высах, як шчэпка (на шчэпку, у шчэпку).

o

Выскаліўся, як сабака на высеўкі (на вожаг).

o

Выскаляецца, як сабака ў пастцы.

o

Выскачыў, як з полымя.

o

Выскачыў, як Піліп з канапель.

o

Выскачыў, як чорт з лазы.

о

Высмажыўся, як скварка.

о

Высокі, як жардзіна.

о

Выхапіў, як з агню.

о

Выцягнуўся, як кнот.

о

Выцягнуўся, як лут.

о

Вычысціў, як конь у жолабе (за ноч).

о

Вялікі, як горад.

о

Вялікі, як дуб.

о

Вялікі (страх), як з леташняга снегу.

о

Вялікі, як свет.

о

Вялы, як націна.

о

Вялікі, як праўда.

о

Вяртлявы, як уюн.

о

Вясёлы, як векавуха [пра змрочнага, сумнага].

о

Вясёлы, як жаўранка (жаваранак).

о

Вясёлы, як ластаўка.

о

Гаварыць [з кімсьці непамяркоўным, упартым], як шрот есці.

o

Гаворыць, як з воўнаю ў роце.

o

Гаворыць, як з кніжкі бярэ.

o

Гаворыць (глуха), як з труны (як з-пад зямлі).

o

Гаворыць, як казань кажа.

o

Гаворыць, як крыніца булькоча.

o

Гаворыць, як плот гародзіць.

o

Гаворыць, як салавей з зязюлькаю.

o

Гаворыць, як у гарачцы.

o

Гадзíць, як ліхой скуле.

o

Гады (ідуць), як вада плыве.

o

Газнічка як воўчае вока.

o

Галава (баліць), як на ёй ячмень змалацілі.

o

Галава (пустая), як сявенька.

o

Галасісты, як звон.

o

Галасок як званок.

o

Галодны, як воўк.

o

Галодны, як сабака.

o

Галосіць (плача), як нябожчыка хавае.

o

Галосіць, як па нябожчыку.

о

Галоўка як макаўка.

о

Ганарысты, як хутаранец.

о

Ганяюць, як ката (як сабаку).

о

Гарачы, як прысак (як вар, як агонь).

о

Гартоўны, як цыганскае дзіця.

о

Гаруе [многа, цяжка працуе], як вол.

о

Гаруе, як конь грабежны.

о

Гарыць, як золата.

о

Гарыць (чырванню), як каліна.

о

Гарыць, як сляпы глядзіць.

о

Гаспадарыць, як свіння ў агародзе.

o

Гаспадыня як мурашачка [працавітая, руплівая].

o

Гатовае, як яечка аблупленае.

o

Гідкі, як кажан.

o

Гідкі, як п'яўка.

o

Гладзенькі, як яблычак.

o

Гладка робіць, як піша.

o

Гладка, як на патэльні (на скаварадзе).

o

Гладкая (дарога), хоць яйцо каці.

o

Гладкі, як бычок.

o

Гладкі, як лінь.

o

Гладкі, як парсюк (як вяпрук, як кабан).

o

Гладкі, як мянёк (як мянтуз).

o

Гладкі, як шкло.

o

Глухі, як апенька.

o

Глухі, як пень.

o

Глухі, як цецярук.

o

Глядзіць, як аблізаны.

o

Глядзіць, як баран на новыя вароты.

o

Глядзіць, як баран у біблію.

o

Глядзіць, як бык на новае шула.

o

Глядзіць (беражэ, зберагае), як вока.

о

Глядзіць, як воўк на казу.

о

Глядзіць, як воўк на труса.

о

Глядзіць, як злодзей.

о

Глядзіць, як кот на сала.

о

Глядзіць, як мыш з дражджэй.

о

Глядзіць, як (тая) гусь на бліскавіцу.

о

Глядзіць, як у кніжку.

о

Глядзіць, як чорт на папа.

о

Глядзіць (спадлоб'я, з-пад лоба), як воўк.

о

Глянуў, як грош даў.

o

Глянуў, як іскрамі сыпануў.

o

Гнаў, як (таго) сабаку з хаты.

o

Гнецца, як цавіна (цявіна).

o

Гола, як на падлозе (як на таку).

o

Голы, як бізун.

o

Голы, як калена.

o

Голы, як маці нарадзіла.

o

Голы, як палец.

o

Голы [луг, сенажаць], як ток.

o

Голы, як турэцкі святы.

o

Голы, як у лазні.

o

Гонару, як у багатага свата.

o

Гонару, як у засцянковай шляхцянкі (як у хутаранца).

o

Гоняць, як сабаку.

o

Горача, як на скаварадзе.

o

Горача, як у лазні.

o

Горача, як у кажусе на сонцы.

o

Горача, як у печы.

o

Горка, як на чужыне.

o

Горкі, як дым.

o

Горкі, як палын.

o

Горкі, як перац.

o

Горкі, як рэдзька.

o

Горкі, як чэмер [горкая расліна].

o

Грабецца (грэбаецца), як курыца на сметніку.

o

Грозны, як перад меншым начальнікам.

o

Грошай, як за пшаніцу.

o

Грошай, як мякіны.

o

Грошай, як трэсак (як смецця).

o

Грошы як вада.

o

Грукае, як конь капытамі (па бруку).

o

Грукату, як у млыне.

o

Грукоча, як колы на бруку.

o

Грыбкі як капыткі.

o

Грызе (есць), як іржа жалеза.

o

Грызуцца, як сабакі.

o

Грымнуў, як пярун.

o

Грымнуў, як хвоя аб зямлю.

o

Грэбаецца, як сляпы ў торбе.

o

Грэе, як месяц.

o

Губкі як малінкі.

o

Губы як маліны.

o

Губы як трубы.

o

Гудуць, як авадні.

o

Гудуць, як камары.

о

Гудуць, як пчолкі (у вуллі).

о

Гульнуў, як голы ў крапіве.

о

Гуляе, як вецер.

о

Гуляе, як дзіця малое.

о

Гуляе, як кошка з мышкаю.

о

Гуляе, як свіння на вяроўцы.

о

Гуляе, як цяля на прывязі.

о

Гуляюць, як ластаўкі над поплавам.

о

Гуртам [добра, лёгка працаваць], як жартам.

о

Густы, як дым.

○

Густы, як ельнік.

○

Густы, як каша.

○

Густы, як кісель.

○

Густы, як шчотка.

○

Гучна (крычаць), як на кірмашы.

○

Гыркаюцца, як на разніцы.

○

Дабіцца, як з каменя вады.

о

Дабраліся, як дзве кроплі вады [пра аднолькавых].

о

Далікатны, як ангельскі цюцька.

о

Далікатны, як куранятка.

о

Дапамог (памог), як хваробе кашаль.

о

Дапаможа, як папова малітва [ані не дапаможа!].

о

Дарагая, як крыніца.

о

Дарагі, як матка родная.

о

Дарагі, як свая душа.

о

Дарагі, як сонейка яснае.

о

Дарога як страла.

о

Дарога як струна.

о

Даўганогі, як бусел.

о

Даўгашыі, як бусел.

о

Даў, як вераб'ю (як зайцу) на закуску.

о

Даў, як з рукава.

о

Даў, як на раз укусіць.

о

Даў, як украўшы.

о

Два белыя, а трэці — як снег.

о

Дачка як каралеўна.

○

Дачушка як ластавачка.

○

Двор як пані сесці.

○

Дзед як смаловы корч.

○

Дзень як часіна, век як гадзіна.

○

Дзеўка як агонь.

○

Дзеўка як вішня.

○

Дзеўка як кветка (як краска).

○

Дзеўка як півоня.

○

Дзівіцца, як воўк на казу.

○

Дзікі, як фашыст.

○

Дзьмецца, як індык.

○

Дзыгае, як бусел.

o

Дзыбаты, як журавель.

o

Дзялілі, як Тодар з Тадораю (лапаць з абораю).

o

Дзяўчына як лань.

o

Дзяўчына як таполя.

o

Дзяўчыначка (дзяўчынанька) як цавінка (цявінка).

o

Дзяцей, як бобу (у рэшаце).

o

Дзяцей [малых у сям'і], як гарбузікаў.

o

Дзяцей, як снапоў у пасадзе (у азяродзе).

o

Джгануў, як шэршань у скроню.

o

Добра, як з вадою.

○

Добра, як катку.

○

Добра, як на дажынках.

○

Добра, як у гасцях на Случчыне.

○

Добра, як у мамы гасцяваць (у госцейках).

○

Добра, як у раі.

○

Добры, хоць да раны прыкладай.

○

Добры, як бабулька.

○

Дождж, як з вядра (як з цэбра).

○

Дома край (лепшы) як рай.

○

Доўгі, як алекшыцкая грэбля [недалёка ад мястэчка Свіслач].

○

Доўгі, як вуліца.

o

Доўгі, як жэрдка.

o

Доўгі, як пятроўскі дзень.

o

Дробныя, як мак.

o

Дроў, як у лесе.

o

Дружна, як жабы на дождж (закракталі).

o

Дружны, як рэха.

o

Дрыжыць, як авечы хвост.

o

Дрыжыць, як асіна (як лісце асінавае).

o

Дрыжыць, як дрыгва.

o

Дрыжыць, як у трасцы (як у ліхаманцы).

o

Дрэмлюць, як каровы на стойле.

o

Дудукае, як ліхая свякроўка.

o

Дужы, як асілак.

o

Дужы, як зубр.

o

Дужы, як мядзведзь.

o

Дужы, як тур.

o

Дурная, як сініца.

o

Дурная, як цяля.

o

Дурны, як авечка.

o

Дурны, як бот.

o

Дурны, як варона (як варона загуменная).

о

Дурны, як даўбешка (як доўбня).

о

Дурны, як пень.

о

Дурны, як цецярук.

о

Дурэюць, як кацяняты.

о

Дурэюць, як малыя.

о

Ежа як у птушкі.

о

Едуць, як на суд [адвярнуўшыся адзін ад аднаго].

о

Едуць, як пасварыўшыся.

о

Енчыць, як ка́ня на дождж.

о

Есці, як верабейку.

о

Есці, як сініцы (сінічцы) [вельмі мала].

о

Есці, як кату (катку).

о

Есці хочацца, як воўку.

о

Есць, як валоў шэсць.

о

Есць, як кот.

o

Есць, як на голад.

o

Есць, як не сваёю губою (як не сваім ротам).

o

Есць, як не ў сябе.

o

Есць, як перад смерцю.

o

Есць, як у церніцу трэ.

o

Есць, як чужым ротам (як не сваім ротам).

Жарабіца як лялька.

o

Жаўцейшы за жаўток.

o

Жвавы, як верабейка.

o

Жмурыцца, як кот на сонцы.

o

Жонка як мурашачка.

o

Жоўта, як ад рамонкаў.

o

Жоўты, як воск.

o

Жоўты, як жаўток.

o

Жоўты, як рамонак.

o

Журба як іржа.

o

Жыве, як гарох пры дарозе (хто ідзе, той і скубе).

о

Жыве, як зязюлька.

о

Жыве, як сарока.

о

Жыве, як сыр у смятане.

о

Жыве, як (тая) старадрэвіна.

о

Жыве, як труцень.

о

Жыве, як у бога за пазухай.

о

Жывецца, як валу ў ярме.

о

Жывём, як песню пяём (адну канчаем, другую пачынаем).

о

Жывот як бочка.

o

Жывот як гарбуз.

o

Жывот як торба.

o

Жывуць, як агонь з вадою.

o

Жывуць, як аднае маткі дзеткі.

o

Жывуць (добра, хораша), як вянкі плятуць.

o

Жывуць, як галубкі ў пары.

o

Жывуць, як кот з сабакам.

o

Жывуць, як птушкі.

o

Жывуць, як сабакі.

о

Жывучы, як кот.

о

Жывучы, як пырнік.

о

Жыта як сцяна.

о

Жыццё як мёду піццё.

о

Жыта (салома) як дрот.

о

Жыта як рабіна.

о

З вераб'ёву душу.

○

З добрым рабіць, як дзяды дзедаваць.

○

З дурнем спрачацца, як чаротам частавацца.

○

З торбаю, як старац.

○

З языком, як з мячом.

○

Забег, як вады каўнуць (глынуць, смакнуць).

○

Завыў, як воўк.

○

Завыў, як салавей за гарою [воўк].

○

Загончык як шнурок.

о

Задумаўся, як сабака ў чоўне.

о

Задзірлівы, як певень.

о

Задушыць, як гада.

о

Задушыць, як муху.

о

Зажадалася, як кабыле воцату.

о

Зайздросны, як пападдзя.

о

Зайздросны, як паповы вочы.

о

Залапатаў, як цецярук.

о

Замаркоціўся, як дзіцятка без маткі.

о

Замінае, як корч на дарозе.

о

Замурзаўся, як камінар.

о

Заняло, як жабе ўзімку (зімою).

о

Запомніў, як карчмар даўгі.

о

Зарабіў, як Заблоцкі (Заброцкі) на мыле.

о

Зарабіў, як курыцы на соль.

о

Зарабіў, як на соль селядца пасаліць.

о

Зарвала, як жабе на зіму.

о

Зарос, як поп.

о

Зарос, як старавер.

о

Засакатала, як курыца.

о

Засеў, як костка ў глотцы.

о

Заснуў, як забіты.

о

Заспявалі [запішчалі], як свінні на дождж.

о

Засталася, як у полі вецер.

о

Застыў, як певень пасля кукарэку.

о

Затакаваўся, як цецярук.

о

Зацвілі, як мак.

о

Збедніўся, як чорт пад крыжам.

о

Збіліся, як авечкі (у кучу).

о

Збіліся, як селядцы ў бочцы.

о

Збіраецца, як вяселле ладзіць.

○

Збіраецца, як свёкар пялёнкі мыць.

○

Зблыталіся, як ніткі.

○

Збожжа як сцяна.

○

Збожжа як тын.

○

Збрыдаў, як гнілая рыба.

○

Збялеў, як палатно.

○

Збялеў, як смерць.

○

Збялеў, як хустка.

○

Зваліўся, як сноп.

○

Звіваецца, як вуж (як гадзюка).

○

Звініць, як званок.

o

Звініць, як камар.

o

Звініць, як піла.

o

Звініць, як струна.

o

Звыкся з бядою, як рыба з вадою.

o

Звяглівы, як сабака.

o

Згарэў, як свечка.

o

Згас, як свечка.

o

Згіне, як на чужыне.

o

Згіне, як рудая мыш.

o

Згінуў, як вецер знёс.

o

Згінуў, як праз зямлю праваліўся.

o

Згінуў, як сабака.

o

Згінуў, як туман.

o

Згодныя, як два каты ў адным мяшку.

o

Згорбіўся, як мядзведзь на скоках (скачучы).

o

Згорбіўся, як старэнькі.

o

Зграбная, як лялька.

o

Зграбны, як вол да карэты.

o

Зграбны, як (худая) свіння ў дождж.

o

Здаравенны (здаровы), як дуб.

o

Здаровы, як вол.

о

Здаровы, як дрот.

о

Здаровы, як дуб скарбовы.

о

Здаровы, як зубёр (зубр).

о

Здаровы, як леў.

о

Здаровы, як мур.

о

Здаровы, як рыба.

о

Здаровы, як цвік.

о

Здатны, як вол да карэты.

о

Здоўжылася, як восень.

о

Здрадны (здрадлівы), як Юда.

о

Здружаныя, як цыганы.

о

Зелянейшы за траву (за лісце).

о

З'еў, як за сябе закінуў.

о

Зіма [цягнецца доўга] як гад.

о

Зірнуў, як воўк.

о

Зіхнула, як знічка.

о

Зіхнула, як маланка (як бліскавіца).

о

Злавіў, як вецер у полі.

о

Злавіў, як маланку (бліскавіцу) за хвост.

о

Злавіў, як маланку (бліскавіцу) у шапку.

о

Злаяў, як сабаку.

o

Злосны, як звер.

o

Злосны, як сабака.

o

Злосны, як сонца ў завіруху.

o

Злосны, як спасаўская муха.

o

Зляцелі гадочкі, як адна вясна.

o

Зляцеліся, як сарокі.

o

Змакрэў, як мыш у кадушцы (у дзежцы).

o

Змарнаваўся, як рудая мыш.

o

Змарнеў, як на чужыне.

о

Змарнеў, як націна.

о

Змёрз, як прусак.

о

Зморшчыўся, як смарчок.

о

Змоўк, як мыла з'еўшы.

о

Змоўк, як язык праглынуў.

о

Змя́тае, як у сабакі ў зубах пабыло.

о

Знаецца, як свіння на пастах.

о

Знаецца, як свіння на перцы.

о

Знайшоў, як сякеру за (пад) лаваю.

о

Знаюцца, як лысыя коні.

о

Знелюбела, як стрыга [гвалтоўна астрыжаная дзяўчына за амаральныя паводзіны].

о

Зрабіць, як плюнуць.

о

Зруб як звон.

о

Зруб як шклянка.

о

Зруб як яйка.

о

Зубкі як точаныя.

о

Зубы як пэрлы.

○

Зубы (вострыя), як у шчупака.

○

Зубы (рэдкія), як у шчупака.

○

Зубы як часнок.

○

Зубы (рэдкія) як частакол.

○

З'язджаюцца, як на кірмаш.

○

Зялёны, як рута.

○

Зялёны, як трава.

○

Зялёны, як трава-мурава.

○

Зямлі, як бабе (пані) сесці.

o

Зямлі, як на прыпечку.

o

Зямля (высахла) як попел.

o

Зямля (нагрэлася) як прысак.

o

Зямля як кладоўка.

o

Зямля (убітая) як ток.

o

Зямля (чорная) як сажа.

o

Ідзе, як вада.

о

Ідзе, як гадзіннік.

о

Ідзе, як з зайцамі на галаве.

о

Ідзе, як за сабою воз цягне.

о

Ідзе, як карове набэдрыкі (нарытнікі).

о

Ідзе, як качка плыве.

о

Ідзе, як конь ступае.

о

Ідзе, як не сваімі нагамі.

о

Ідзе, як пава.

о

Ідзе, як па дрыгве.

о

Ідзе, як па масле.

o

Ідзе, як у новых ботах.

o

Ідуць, як гусі за гусаком.

o

Ідуць, як злыганыя.

o

Ідуць, як з могілак (з пахавання).

o

Ідуць, як на шпацыр.

o

Ідуць, як судзіцца.

o

Кажа, як вяжа.

o

Каласкі як камаровыя наскі.

o

Калоціцца, як асіна.

o

Кальнуў, як шылам.

o

Калючы, як ёрш (аджгір).

o

Кануў, як камень у ваду.

o

Кароўка як каза.

o

Карысці як з порхаўкі.

o

Каса (тупая) як падносак.

o

Карэлы, як ануча.

o

Касаплётка як ружа жывая.

o

Кахаюцца, як галубкі.

o

Кепскі кватаранец, як барана ў хаце.

o

Ківаецца, як рабін.

o

Кідае, як у бяздонную студню.

o

Кінуў, як камень у ваду.

o

Кіпіць, як вада ў гаршку.

o

Кіпіць, як у катле.

o

Кіпіць, як у пекле.

o

Кіпці (кіпцюры) як сахары (вілы).

o

Кіслы, як лесавы яблык (лесавічок).

o

Кіслы, як кісля.

o

Кіслы, як журавіна.

o

Кіслы, як яблык з дзічкі.

o

Кланяюцца, як крыніцы пры дарозе.

o

Кленчыць, як жабрак за акном.

o

Клыкі, як у кныра.

o

Клюнуў, як верабей.

o

Кляпе, як марозам на вяргіню вее.

o

Конь як карцінка.

o

Конь як лялька.

o

Коскі як мышыныя хвасточкі.

o

Коціцца, як клубок.

o

Крадзецца, як злодзей.

o

Крам (крамніна) як рэшата.

o

Круглы, як бочка.

o

Крохкі, як парахня.

o

Круглы, як бервяно.

o

Круглы, як калода.

o

Круглы, як качан (капусты).

o

Круглы, як качулка.

o

Круглы, як кола.

○

Круглы, як яйка.

○

Круціцца, як вавёрка.

○

Круціцца, як верацяно.

○

Круціцца, як вецер на прыгумен-
ні.

○

Круціцца, як віхор.

○

Круціцца, як вуж.

○

Круціцца, як вяроўка.

○

Круціцца, як голы ў крапіве.

○

Круціцца, як на шрубах.

○

Круціцца, як сабака ля ганку.

○

Круціцца, як у віры.

o

Круціцца, як уюн на гарачай патэльні (на скавварадзе).

o

Круціцца, як (яго) падпякаюць.

o

Круціцца, як віхор.

o

Крывіцца, як серада на пятніцу.

o

Крыж (у каня) як лава.

o

Крычыць, як апантаны.

o

Крычыць, як на каршуна.

o

Крычыць, як рэзаны.

o

Крэкча, як жаба.

o

Крэкча, як стары дзядулька (дзед).

o

Крэпкі, як камень.

o

Кудлаты, як баран.

o

Кудлаты, як поп.

o

Кукуе, як зязюля.

o

Кулакі як гіры.

o

Кульнуўся, як сноп.

o

Купчыцца, як курыца на кублe (на гняздзе).

o

Курна, як у восецi (асецi, еўнi, у хаце курнай).

o

Куслiвы, як сабака.

o

Куслiвы, як сляпень (як камар, як авадзень).

o

Куслiвы, як спасаўская муха.

o

Куцы, як у зайца хвост.

o

Кучаравы, як баран.

o

Ласкава, як матчынымі рукамі.

o

Ласкавае слоўка, як сонейка, грэе.

o

Ласы, як кот на каўбасы.

o

Лашчыцца, як сабака.

o

Лезе, як аса ў вочы.

o

Лезе, як вош на лоб (на струп).

o

Лезе, як дым (у вочы).

o

Лезе, як жаба на куст (на купіну).

o

Лезе, як мухі да мёду (на мёд).

o

Лезе, як муха на рану.

о

Лезе, як муха ў вочы.

о

Лезе, як слата.

о

Лезе (у вочы), як муха ў спасаўку.

о

Лье, як з вядра (як з цэбра).

о

Льецца, як бяроза.

о

Лёгка (рабіць, працаваць), як гуртам.

о

Лёгка (жыць), як у гурце.

о

Лёгка бяжыць( скача), як сарна.

о

Лёгка, як з радзінаю (раднёю).

о

Лёгка, як пяро (пярынку) спаліць.

о

Лёгкі, як матыль (матылёк).

о

Лёгкі, як папера.

о

Лёгкі, як птушка.

о

Лёгкі, як пух (пушынка).

о

Лёгкі, як пярынка.

о

Лёд як шкло.

о

Лізнуў, як жалеза на марозе.

о

Ліпіць, як арэх на сухой галіне.

о

Ліхі, як сабака шалёны.

о

Ліхі, як скула.

о

Ліхі (злы), як аса.

о

Лішні, як гнілы корань (зуб) у роце.

о

Лоўкі, як артыст.

o

Лоўкі, як біч.

o

Лубін як лаза [вялікі, густы].

o

Лубін як лес [вялікі].

o

Лыпае (вачыма), як баран.

o

Лысы, як барсук.

o

Лысы, як бубен.

o

Лысы, як калена.

o

Лысы, як ксёндз.

o

Любіць, як матка дзіцятка.

o

Любіць, як мядзведзік мёд.

o

Любіць, як сабака ката.

o

Любіць, як сабака палку.

o

Любіць, як сабака цыбулю.

o

Любяцца, як галубы (галубкі).

o

Любяцца, як кот з сабакам.

o

Людзей, як на фэсце (як на кірмашы).

o

Ляжыць, як без душы.

o

Ляжыць, як калода.

o

Ляжыць, як камень.

o

Ляжыць, як нежывы.

o

Ляжыць, як палена.

o

Ляжыць, як пан.

o

Ляжыць, як пласт.

o

Ляпнуў, як лапцем па цымбалах.

o

Ляціць, як апантаны.

o

Ляціць, як вецер (куля, страла).

o

Ляціць, як чорт з пекла.

o

Ляціць, як шалёны (ашалелы).

o

Ляцяць (гадочкі), як птушачкі.

o

Маладзіца як брусніца.

o

Маладзіца як лань.

o

Маладзіца як ласіца [дужая, стройная].

o

Маладзіца як царыца.

o

Малюсенькі, як камаровы насок.

o

Малюсенькі, як пазногаць.

o

Мармыча, як нямко.

o

Мармыча, як рабін малітву.

o

Мароз, аж зоры трымцяць.

o

Мароз, як агнём (іскрамі) пячэ (паліць, смаліць).

o

Матляецца, як авечы хвост.

o

Маўчыць, як вады ў рот набраўшы.

o

Маўчыць, як воцату выпіўшы.

o

Маўчыць, як камень пры дарозе.

o

Маўчыць, як мыла з'еўшы.

o

Маўчыць, як рыба.

o

Маўчыць, як слуп.

o

Маўчыць, як сом.

o

Маўчыць, як сцяна.

o

Маўчыць, як язык праглынуў.

o

Меле языком, як цялё хвастом.

o

Мёрлі, як мухі.

o

Мілы, як сон.

o

Многа, як гразі.

o

Многа, як дроў.

o

Многа, як каменя.

o

Многа, як зорак на небе.

o

Многа, як ігліцы (шыльніку).

o

Многа, як маку.

o

Мой век як макаў цвет.

o

Моўчкі, як сом.

o

Моцна, як кот убрыкнуў.

o

Моцны, як камень.

o

Моцны, як мур.

o

Моцны як мур, а мур як дрожджы (як гліна).

o

Моцы, як у бурбалцы на вадзе.

o

Мудруе, як рабін.

o

Мурзаты, як камінар.

o

Мучыцца, як з зубамі.

o

Мучыцца, як ліс у саладусе.

o

Мяккі, як вата (пух).

o

На Беларусі пчолы як гусі.

o

На кірмашы, як у віры.

o

На стале, як на дзяды.

o

Набраў, як бурбалак на вадзе.

o

Набраў, як туману ў рэзгіны.

o

Набраўся, як гразі.

o

Набраўся, як жаба мулу.

o

Набраўся, як свіння брагі.

o

Набыўся, як сакавіцкі снег.

o

Навазіў, як дроў.

o

Навалілася, як саранча.

o

Наваліўся, як чорная хмара.

o

Нагарнуў, як дыму ў мех.

o

Нагуляўся, як цяля на прывязі.

o

Надакучыў, як горкая рэдзька.

o

Надзеў, як сядло на свінню.

o

Надзьмуўся, як жаба на карчы (на купіне).

o

Надзьмуўся, як кавальскі мех.

o

Надзьмуўся, як мыш на крупы.

o

Надзьмуўся, як сава.

o

Надзьмуўся, як сыч.

o

Наедку, як з рака.

о

Наеўся, як на дзяды.

о

Назбіраў, як на вярбе груш назрываў.

о

Назойлівы, як муха (аса, авадзень).

о

Назляталіся, як груганы.

о

Накінуўся, як галодны на хлеб.

о

Накінуўся, як сабака на костку.

о

Накінуўся, як сабака на мокрую анучу.

о

Накормлены, як сабака на разніцы.

о

Налажыў, як дроў.

о

Налізаўся, як вуж.

о

Налізаўся, як папоў мурза.

о

Наляцела, як крукоў (груганоў).

о

Наляцела, як саранчы.

о

Нанасіў, як жару ў шапцы.

о

Напалі, як пчолы на неўмывацьку.

о

Напіўся, як зямля.

о

Напусціўся, як ліхая шапка.

о

Нарабілася, як у байцы (у казцы).

о

Нарабіў, як кот наплакаў.

о

Наравіць, як ліхой скуле.

о

Нарасло, як быльнягу.

o

Натура як у (таго) тура.

o

Натурысты (наравісты), як малады жарэбчык.

o

Нахілілася, як вярба.

o

Нахільная, як вярба.

o

Нацягнуў, як струну.

o

Начапурыўся, як індык.

o

Нашчыплеш, як на далоні.

o

Не адчапіцца, як ад ценю.

o

Не будзе (такой) зімы, як лецейка.

o

Не будзе свякровачкі, як матачка.

o

Не вер, як збродліваму сабаку.

o

Не верыць, як набродам (валацугам).

o

Не заўсяды, як на дзяды.

o

Не збыць, як ламаны шэлег (грош).

o

Не пабачыш, як сваіх вушэй.

o

Не прылашчыш, як воўка.

o

Не скранеш, як пень дубовы.

o

Не трэба, як вайны.

o

Не хапайся, як пападзянка замуж.

o

Не хоча, як старац саракоўкі.

o

Не хочацца, як ляному (ляніваму) каню ў аглоблі.

o

Не хочацца, як паміраць.

o

Не хочацца, як свёкру пялёнкі мыць.

o

Не́ма, як на могілках.

o

Ненаедны (ненажэрны, ненакормлены), як качка (пры вадзе).

o

Ненадзейны, як выпіванец (выпівака, п'яніца).

o

Нікне, як націна.

o

Нітка як павуціна.

o

Ногі баляць, як сабакі рвуць.

o

Нос як бульбіна.

o

Нос як гузічак.

o

Нос як дуля [садовая груша].

o

Нос як у дзятла дзюба.

o

Нос як у бусла дзюба.

o

Нос як у качкі.

o

Носіцца, як вецер.

o

Носіцца, як дурань з дзвярмі (дзвярыма) (як дурань са ступаю).

o

Носіцца, як з пісанаю торбаю.

o

Носіцца, як кот з салам (з селядцом).

o

Носіцца, як курыца з яйкам.

o

Носіцца, як ластаўка на пакорме.

o

Носіцца, як пісаная торба (як з пісанай торбай).

o

Носіцца, як са скулянкаю.

o

Носіцца, як шыбенік (шыбельнік).

o

Нявестачка як кветачка.

o

Нядружны, як хутаранец.

o

Нязгодныя, як агонь з вадою.

o

Нязграбны, як жаба.

o

Нялюдскі, як фашыст.

o

Няма, як вецер звеяў.

o

Няма, як чорт лапаю (хвастом) накрыў.

o

Нясецца, як вецер.

o

Нясецца, як віхор.

o

Нясмачна, як мыш глынуўшы.

o

Нясмачны, як трава (як пойла, як крупнік з казляком).

o

Няўрымслівы, як верабей.

o

Пабег — адно вецер увушшу засві-стаў.

о

Пабег, як апараны.

о

Пабыў, як агню (жару) ухапіў.

о

Пагаварыць [з непамяркоўным], як шротам пачаставацца.

о

Паваліўся, як сноп.

о

Пагадзіліся, як вада з агнём.

о

Пагаўкаў, як (той) сабака на лісіную нару.

о

Пагінулі, як прусакі на марозе.

о

Пагрозны, як певень.

о

Падбірае, як ластаўка мошак.

o

Падкраўся, як кот.

o

Падмануў, як чорт добрую душу.

o

Падмог, як кот наплакаў.

o

Падпільноўвае, як хутаранец у садзе.

o

Падобны, як свіння да лебедзя.

o

Падобныя, як дзень да ночы (як дзень на ноч).

o

Падобныя, як неба да зямлі (як неба на зямлю).

o

Падскоквае, як кот на гарачай блясе (патэльні).

o

Падскочыў, як ад іскры.

o

Падскочыў, як апараны.

o

Падскоквае, як мячык.

o

Падхапіўся, як заяц з-пад купіны.

o

Падцікаваў, як кот.

o

Падцікоўны, як спружына.

o

Пажыў, як свечка.

o

Падэшва як шкло.

o

Паехаў (пайшоў), як у вір галавою.

o

Пазірае, як воўк на авечку.

o

Пазірае, як набіты сабака.

o

Пазірае, як сабака з будкі.

o

Пазірае, як сава.

o

Пазірае, як чорт на папа.

o

Пазляталіся, як груганы на па-корм.

o

Пазляталіся, як мухі на мёд.

o

Пазнаўся, як свіння на перцы.

o

Пазычыў, як у гусі аўса.

o

Паймчаў, як толькі дужы.

o

Пайшлі, як пчолкі па мёд.

o

Пайшло, як з маслам.

o

Пайшло, як на мазаных колах.

o

Пайшоў, як аблізаўшыся.

o

Пайшоў, як валожынскі бугай па лёдзе.

o

Пайшоў, як па смерць.

o

Пайшоў, як пчала між кустоў.

o

Паказаўся, як малады месяц.

o

Пакаралі, як рака ў ваду ўпусціўшы.

o

Пакаціўся, як сноп.

o

Пакорны, як авечка.

o

Пакрышачцы, як у аптэцы.

o

Палахлівы, як заяц.

o

Пальцы як граблі.

o

Паляцела, як птушка.

o

Паляцела, як пчолка.

o

Памалу, як з гаршкамі на торг.

o

Памірае [ціха], як скошаная трава (як трава ў пракосе).

o

Паненка як лялечка.

o

Пануры, як хутаранец.

o

Папаўся, як муха ў кісель.

o

Парадак як на стайні.

o

Паслухмяны, як перад большым начальнікам.

o

Паўзе, як вуж (як гадзюка).

o

Паўзе, як вусень.

o

Паўзе, як жук.

o

Паўзе, як муха па смале.

o

Паўзе, як сонная муха.

o

Паўзе [назад], як рак.

o

Паўзе [павольна], як чарапаха.

o

Пахне, як мурог (з поплаву).

o

Пацеха, як з пустога меха.

o

Пацягнуўся, як сабака да разніцы.

o

П'е, як у бочку (у кадушку) лье.

o

П'е, як у лейку лье.

o

Пекная, як караля.

o

Пекная, як на карцінцы.

o

Пекная, як паненка.

o

Пекная, як пацерачка.

o

Пекная, як пшоннае цеста.

o

Пекная, як у рамачцы (хоць у рамачку асадзі).

o

Пень як стол.

o

Перакінуўся, як чорт.

o

Перапаўся (бедненькі), як мядзведзева лапа.

o

Перацяты, бы аса.

o

Песня без канца, як кабыла без хваста.

o

Пільнуе, як кот мышку.

o

Пільнуецца, як сцежкі ў лесе.

o

Піша, як курыца пазурамі.

o

Пішчыць, як мыш.

o

Пішчыць, як парася (свіння) у плоце.

o

Плавае, як галушка па (у) масле.

o

Плавае, як сякерка.

o

Плача, як бабёр.

o

Плача, як дзіця.

o

Плача, як матка па дзіцятку.

o

Плача, як па матцы.

o

Плача, як па нябожчыку.

o

Плечы як засланка [шырокія].

o

Плодны, як відук (як самасейка).

o

Плоскі, як дошка.

o

Плоскі, як лешч.

o

Плоскі, як трэска.

o

Пнецца, як жаба на купіну (на корч).

o

Поле як мора.

o

Поркаецца, як лычом у карыце.

o

Порсткая, як сена шорсткае.

o

Поўна, як у бочцы селядцоў.

o

Поўны, як вока.

o

Прадажны, як Юда.

o

Прайшоў, як конь па градах.

o

Праклінаюць, як вешальніка.

o

Праляцеў, як страла.

o

Прамаўляў, як з кніжак браў.

o

Прамовіў, як з-пад зямлі.

o

Прамовіў, як стрэліў.

o

Прапаў, як камень у ваду.

o

Прапаў, як рыба без вады.

o

Прапаў, як туман.

o

Прапаў, як у ваду ўпаў.

o

Праўды, як у жабрака грошай.

o

Праўды, як у рэшаце вады.

o

Працавіты, як мурашка.

o

Працавіты, як пчолка.

o

Праціўна, як старцу грыўня.

o

Праціўны, як кажан.

o

Праціўны, як павук.

o

Праціўны, як самагонка.

o

Працуе, як машына.

o

Працуе, як чорны вол.

o

Працы, як з таннага (дзяшовага) пастуха.

o

Просты, як дуга.

o

Просты, як калок глынуў.

o

Просты, як свечка.

o

Пруткі, як спружына.

○

Прыбіўся, як пуга да пугаўя.

○

Прыбралася, як да шлюбу.

○

Прыбралася, як на вяселле.

○

Прыбралася, як пад вянец.

○

Прыбралася, як паненка.

○

Прыбраўся, як паўлін.

○

Прыбраўся, як хата перад вяселлем.

○

Прывіўся, як чарвяк у калодзе.

○

Прыволле, як бабру на возеры.

○

Прывык, як дзіця да матчынай калыханкі.

○

Прывык, як дзіця да маці.

o

Прывык, як сабака да разніцы.

o

Прывык, як уночы спаць.

o

Прывык, як чорт да балота.

o

Прыгожа, як на карцінцы.

o

Прыгожа, як у садочку.

o

Прыгожая, як кветачка (як красачка).

o

Прыгожая, як лялька (як ляля).

o

Прыгожая, як паненка.

o

Прыгожая, як цацка.

o

Прыйшоўся, як вол да карэты.

o

Прыкметны, як з абдзёртым носам.

o

Прыліп, як клешч.

o

Прыліп, як смала.

o

Прынёс, як верабей.

o

Прысмактаўся, як п'яўка.

o

Прыстае, як да бабулькі пудра.

o

Прыстае, як кепскі блін.

o

Прыстаў, як кароста.

o

Прыстаў (прычапіўся), як п'яны да плоту.

o

Прыстаў, як сала да падэшвы.

o

Прыстаў, як слата.

o

Прыстаў, як смала.

o

Прытаіўся, як зайчык пад мяжою.

о

Прыходзіцца, як свінні кульбака.

о

Прыходзіцца, як свінні набэдрыкі (нарытнікі, паўшоры).

о

Прычапіўся, як ваўчкі да вопраткі.

о

Прычапурыўся, як індык.

о

Прэ, як заяц.

о

Прэцца, як чорт лазаты.

о

Пуду, як у малога начальнічка.

о

Пусты, як вецер [пра чалавека].

о

Пшаніца як боб.

о

Пылу, як у млыне.

о

Пялегуецца, як сыр у масле.

Рабенькі, як дзятлік.

o

Рабіў, як на людзях [добра, з пачуццём адказнасці].

o

Рабіў, як сабе.

o

Рабы, як цяцера.

o

Раве, як бык (бугай, вол).

o

Рагоча, як жарабец.

o

Рад(ы) лету, як матылі квету.

o

Рад(ы), як на сто коней сеў.

o

Рад(ы), як на свет нарадзіўся.

o

Рад(ы), як п'яніца чарцы.

o

Рад(ы), як сабака палцы.

o

Радзенькі, як з таго свету вярнуўся.

o

Разважлыў, як размазаў.

o

Разгуляліся, як свіная чарада на дождж.

o

Разгуляўся, як цялё на вяроўцы.

o

Раздураная, як паніна кошка.

o

Разлазіцца, як гліна.

o

Разлезлы, як стары грыб (як абабак).

o

Разышліся, як чорная хмара.

o

Разышоўся, як Ігналя на вечарынцы.

o

Расказвае, як з пісанага бярэ.

o

Раскоша, як шчупаку ў возеры.

○

Распусціўся, як старая панчоха.

○

Распусціўся, як фурманская (дзедаўская) пуга.

○

Растаў, як снег.

○

Растаў, як туман.

○

Растаўсцеў, як вол.

○

Растуць, як грыбы.

○

Растуць, як дрожджы.

○

Расце, як лес.

○

Расце, як на дражджах.

○

Расце, як на лес гледзячы.

○

Расце, як (тая) крапіва пры плоце.

○

Расце, як таполя.

о

Расціснулі, як блашчыцу (клапа) на бэльцы.

о

Ратуецца, як можна (як можа).

о

Ратуецца, як прусак з зацірк і.

о

Раўня як свіння да каня.

о

Рвануў, як воўк.

о

Робіцца, як у млынавым коле.

о

Робіць, як з найму.

о

Робіць, як машына.

о

Робіць, як мокрае гарыць.

о

Робіць (працуе), як сэрца.

о

Родныя, як блізняткі.

○

Рожкі як у чорта.

○

Рот як у ваўка.

○

Рот хлясціць, як (у кепскага гаспадара) двор.

○

Роўна, як на стале.

○

Роўна, як пасля касы.

○

Роўны, як абруч.

○

Роўны, як струна.

○

Роўны, як шкло.

○

Роўныя, як дзве кроплі вады.

○

Рукі як граблі.

○

Рукі (халодныя) як жабіны лапы.

○

Румяны, як пернік.

o

Руплівы, як мурашка.

o

Руплівы, як пчолка.

o

Рынуў слоўцам, як перцам.

o

Рыпіць, як кола без каламазі.

o

Рыпіць, як нямазанае кола.

o

Рэдкае, як невад (як рэшата).

o

Рэдкае, як пойла.

o

Сабраліся, як ваўкі ў ніліпаўку.

o

Сагнуўся, як быліна.

o

Сагнуўся, як дуга.

o

Сад [цвіце], як у малацэ.

o

Сакоча, як курыца.

o

Салодкі, як мёд.

o

Салодкі, як патака.

o

Салодкі, як цукар.

o

Самагонка як дурная жонка (ці з розуму звядзе, ці сілу скрадзе).

o

Самотна, як удаве на хутары.

o

Сапе, як кавальскі мех.

о

Сарамлівы, як дзяўчынка.

о

Сарамлівы, як паненка.

о

Сароміў, як жарам сыпаў.

о

Састарэў, як грыб.

о

Свае як блізняты.

о

Свае як браты.

о

Свае як спарышы.

о

Сварацца, як ятроўкі.

о

Сварлівы, як гандляр.

о

Сварлівы, як (ліхая) свякруха.

о

Сварыцца, мала (як) за гарачы камень не хопіцца.

о

Свіння ў балоце, як пан у залоце.

о

Свіснуў, як пугаю.

о

Свішча, як у коміне.

о

Сеецца, як самасейка.

о

Секануў, як крапівою.

о

Сена [вельмі мала], як куццю падаслаць.

о

Сеў, дык як прыкіпеў.

о

Сеў, як на лёдзе.

о

Сеў, як на мелі.

о

Сівы, як голуб.

о

Сівы, як лунь.

о

Сівы, як яблыня.

○

Сігануў, што стронга.

○

Сілы, як у вераб'я.

○

Сілы, як у камара.

○

Сілы, як у сіндзіка (сініцы).

○

Сіні, як васілёк.

○

Сіні, як неба.

○

Сінія (вочкі), як васілёчкі.

○

Сінія (вочкі), як пралескі.

○

Сінейшы за сіньку.

○

Скажа, як з мёдам, а зробіць, як з шылам.

○

Скажа, як мёд пакажа.

○

Сказалі, як плот звязалі.

○

Сказаў, як адрэзаў.

○

Сказаў, як жарам (прыскам) у вочы (сыпануў).

○

Сказаў, як звязаў.

○

Сказаў, як пугаю па вадзе пляснуў.

○

Сказаў, як сякераю сekануў.

○

Сказаў, як у сук папаў (уляпіў).

○

Сказаў, як цвік у сэрца ўбіў.

○

Сказаў, як цвікам прыбіў.

○

Скача, як дроздзік.

○

Скача, як зайчык.

o

Скача, як каза.

o

Скача, як валожынскі бугай на лёдзе.

o

Скача, як птушка па галінках.

o

Скіпела, як скварка.

o

Склаў рукі, як святы.

o

Скокнуў, як кот на мыш.

o

Скочыў, як у вар.

o

Скрадаецца, як воўк.

o

Скрадаецца, як кот.

o

Скроміўся, як воўк у яме.

o

Скрывіўся, як журавін жменю глынуў.

о

Скрывіўся, як паўтара няшчасця.

о

Скрывіўся, як серада на пятніцу.

о

Скрывіўся, як чорт на папа.

о

Скубуць, як гарох пры дарозе.

о

Скуголіць, як сабака пры парозе.

о

Скупы, як хутаранец.

о

Скупы, як (той) чужаземец.

о

Слёзы як боб.

о

Слёзы як крышталікі (крышталінкі).

о

Слёзы як пацеркі.

о

Слізкі, як лёд.

o

Слізкі, як масляк.

o

Слізкі, як (мокры) вуж (як гадзюка).

o

Слізкі, як уюн (як лінь).

o

Слізгануўся, як на лёдзе.

o

Слова як птушка.

o

Слова як соль.

o

Словам, як пер'ем (сцеле).

o

Служыць, як сабака [пра падхаліма і бязлікага].

o

Слухае, як глухі радыё.

o

Смаку, як у печаным раку.

o

Смала смалою [прывязаўся, прыстаў, прыліп].

o

Смачна (нясмачна), як мыш глынуўшы.

o

Смачна, як цукар з салам.

o

Смела, як за дружным дзедам (мужам).

o

Смелы, як заяц [пра баязліўца].

o

Смелы, як касманаўт.

o

Смелы, як лётчык.

o

Смех як сонца.

o

Смокча, як п'яўка (кроў).

o

Смяецца, як свянцонае парася.

o

Смяецца, як з гары едучы.

o

Смярдзіць, як шашок (як тхор).

o

Смяюцца, як са стрыгі [гвалтоўна астрыжанай дзяўчыны за амаральныя паводзіны].

o

Снег як каша.

o

Снег (сняжынкі) як матылькі (матылёчкі).

o

Снег як пух.

o

Спакойна, як у сланечніку пры дарозе.

o

Спакойны, як камень.

o

Спалі (не спалі), як дзяўчаты на Купалле.

o

Спатрэбілася, як сляпому люстра.

o

Спацеў, як мыш.

o

Спіць, як апошняе ўсыпаўшы.

o

Спіць, як дзіцятка.

o

Спіць, як забіты.

o

Спіць, як заяц.

o

Спіць, як нежывы.

o

Спіць, як пасля кірмашу.

o

Спіць, як пасля маку.

o

Спіць, як пшаніцу прадаўшы.

o

Справядлівы, як вецер у полі.

o

Справядлівы, як дуга.

o

Спрыкрыўся, як ваўкалака.

o

Спрытны, як вавёрка.

o

Спрытны, як верхаводка (яльчык).

o

Спрытны, як качка на вадзе.

o

Спрытны, як кот.

o

Спрытны, як лось.

o

Спрытны, як уюн.

o

Спрытны, як чорт.

o

Спрытны, як язык.

o

Спяшаецца, як на бацькаўшчыну.

o

Ссінеў, як (гусіны) пуп.

o

Стаіць, як дурань (на вяселлі).

o

Стаіць, як заткала.

o

Стаіць, як костка ў горле.

o

Стаіць, як на курынай назе.

o

Стаіць, як пан.

o

Стаіць, як пень.

o

Стаіць, як сабака пад дзвярыма.

o

Стаіць, як слуп.

o

Стаіць, як стаўбун.

o

Стаіць, як урыты (як укопаны).

o

Стараецца, як мурашка.

o

Стараецца, як муха ў смале.

o

Стараецца, як пчала.

o

Старанны, як мурашка.

o

Старанны, як пчала.

o

Старое як малое.

o

Стары, як грыб (як абабак).

o

Стары, як свет.

o

Старэнькі, як сучок.

o

Статны, як лось.

o

Страва як трава (без солі).

o

Стракоча, як сарока.

o

Страў, як на дзяды.

o

Страшная, як ведзьма кіеўская.

o

Страшны, як чорт.

o

Ступае, як сланіха.

o

Суха, як на стале.

o

Сухі, як перац.

o

Сухі, як порах.

o

Сухі, як ражон.

o

Сухі, як соль.

o

Сухі (худы), як таран.

o

Сухі, як трэска.

o

Ссушыў, як верацяно.

o

Схапіў, як абцугамі.

o

Схапіў, як бліскавіцу.

o

Схапіў, як сабака муху.

о

Схапіў, як шылам патакі.

о

Схапіў, як цюцька подмазку.

о

Схілілася, як вербалозіна.

о

Сцебануў, як бліскавіца.

о

Сцеле, як ліс хвастом.

о

Сценкі як паперкі.

о

Сцеражэ, як вока.

о

Сцеражэцца, як кручанага сабакі.

о

Сціснуліся, як селядцы ў бочцы.

о

Сцішка, як з мяшка.

о

Сцягнуўся дзень, як год.

о

Счарнелы, як галавешка.

о

Счырванеў, як рак.

о

Сыкае, як гадзюка.

о

Сыкае, як гусак.

о

Сынок як каток.

о

Сыплецца, як труха.

о

Сыплюцца (слёзы), як у бабра.

о

Сыпнуліся, як пчолы роячыся.

о

Сыты, як вол на бровары.

о

Сыты, як мельнікава (млынарова) карова.

о

Сыты, як парсюк.

о

Сэрца як баранчыкаў хвост.

о

Сэрца як камень.

o

Сябруюць, як браты.

o

Сябруюць, як кот з сабакам.

o

Сядзіць, як барсук у нары.

o

Сядзіць, як блашчыца ў шчыліне.

o

Сядзіць, як верабей у веніку.

o

Сядзіць, як верабей у страсе (пад страхой).

o

Сядзіць, як жаба на купіне.

o

Сядзіць, як за мурам.

o

Сядзіць, як заручоная.

o

Сядзіць, як заяц у жыце.

o

Сядзіць, як костка ў горле.

o

Сядзіць, як корч на сцежцы (на дарозе).

o

Сядзіць, як курыца на яйках.

o

Сядзіць, як мыш пад венікам.

o

Сядзіць, як на жары.

o

Сядзіць, як на іголках.

o

Сядзіць, як на ланцугу.

o

Сядзіць, як намалёваны.

o

Сядзіць, як на прывязі.

o

Сядзіць, як на цвіках.

o

Сядзіць, як на шпільках.

o

Сядзіць, як прыпнуты.

o

Сядзіць, як святы пад крыжам.

o

Сядзіць, як тур.

o

Сядзіць, як у манахах.

o

Сядзіць, як урыты (як укопаны).

o

Сямейка як мурашачкі.

o

Так абходзіць, як леташні снег.

○

Танканогі, як сітка (як сітаўка).

○

Танцуе, як валожынскі бугай на лёдзе.

○

Таргуецца, як за душу.

○

Таргуецца, як за каня.

○

Таўкуць (таўкуцца), як камары мак.

○

Таўчэцца, як Марка па пекле.

○

Тварык як лілея.

○

Тлее, як парахня.

○

Тлусты, як парсюк (як вяпрук, як кабан).

o

Тоненькі, як бочка.

o

Тонкі, як лісцінка.

o

Тонкі, як струна.

o

Тонкі, як смык.

o

Топчацца, як мядзведзь.

o

Тоўсты, як бабёр.

o

Тоўсты, як барсук.

o

Тоўсты, як вол на бровары.

o

Тоўсты, як вулей.

o

Тоўсты, як кормнік.

o

Тоўсты, як печ.

o

Тоўсты, як шула.

o

Точыць, як шашаль.

o

Трапечацца, як баранчыкаў хвост.

o

Трапечацца, як птушачка.

o

Трапечацца, як у ягняці хвосцік [пра сэрца].

o

Трапіў, як прусак (як ліс) у саладуху.

o

Трапіў, як муха ў павуцінне.

o

Трапіў, як пальцам у неба.

o

Трапіў, як у нерат.

o

Трапіў, як у сцяну куляю.

o

Трасецца, як асінавы ліст.

o

Трасецца, як у трасцы.

o

Трашчыць, як сцяна на марозе.

o

Трудна [выцiснуць, здабыць, атрымаць], як з каменя вады.

o

Трудна, як лапцi плесцi.

o

Трымае, як каня на муштуку.

o

Трымаецца, як клешч.

o

Трымаецца, як на гусi вада.

o

Трымаецца, як п'яны за плот.

o

Трымаецца, як сляпы за плот.

o

Трымаецца, як хвароба за цела.

o

Трэ, як у церніцу (як церніца).

o

Трэба, як бочка без абручоў.

о

Трэба, як вады напіцца.

о

Трэба, як жаўранцы (жаваранку) паспяваць.

о

Трэба, як жыць.

о

Трэба, як заснуць.

о

Трэба, як карове сядло (нарытнікі, набэдрыкі).

о

Трэба, як шашаль у кольцы.

о

Трэба, як лысаму грэбень.

о

Трэба, як есці.

о

Трэба, як піць.

о

Трэба, як раз хлеба ўкусіць.

о

Трэба, як пятае кола ў возе.

o

Трэба, як свінні завушніцы.

o

Трэба, як сляпому люстэрка.

o

Трэба, як умерламу балалайка.

o

Туга як іржа.

o

Туляецца, як сабака ад мух.

o

Тупы, як абух.

o

Тчэ, як піша.

o

Убіўся, як Янкель у касцёл.

o

Ублытаўся, як муха ў павуцінне.

o

У вушах, як козы пераначавалі.

o

У даўгу, як у шаўку (у даўгах, як у шаўках).

o

У жываце, як мядзведзь перавярнуўся.

o

У лесе, як у хаце [зацішна].

o

У родным краі, як у раі.

o

Угледзіш (убачыш), як сваё вуха.

o

Удалося, як (той) Салосе.

o

Удзень — як кошкі [спяць], а ўночы — як птушкі [таксама спяць].

o

Уедлівы, як муха ў спасаўку.

o

Уецца, як ластаўка на дождж (перад дажджом).

o

Уецца, як павоі.

o

Уецца, як хмель.

o

Узышоў, як відук (як мак-самасейка).

o

Узяло, як пана за жывот.

o

Узяло, як пана раза́чка.

o

Узяў, як верабейка.

o

Узяўся, як вош за цела.

o

Узяўся, як за полудзень.

o

Узяўся, як мароз нанач.

o

Узяць, як у клешчы.

o

Улез, як муха ў смалу (у патаку).

o

Улез, як сучка ў збан.

o

Улёг, як казёл за вагонам.

o

Улетку ноч, як у зайца хвост.

o

Умелы, як дзяшовы (танны) пастух [пра вельмі няўмелага].

o

Унадзіўся, як заяц у капусту.

o

Унадзіўся, як каза ў агарод.

o

Унадзіўся, як кот у каўбасы.

o

Унадзіўся, як свіння ў бульбу.

o

Упарты, як казёл.

o

Упёрся, як казёл.

o

Упёрся, як чорт у грэблю.

o

Упіраецца, як каза (на торг ідучы).

o

Упіўся, як клешч.

o

Упіўся, як п'яўка.

o

Усё адно (усё роўна), што гарох на сцяну кідаць.

o

Усё адно (усё роўна), што ў кульгавага кія адабраць.

o

Усё прымае, як зямля.

o

Ускочыў, як у нерат (ні ўзад ні ўперад).

o

Ускочыў, як у тапіла (у багну).

o

Усхадзіўся, як маладое піва.

o

Ухапіла, як багатага за жывот.

o

Ухапіўся, як за малінку.

o

Уцякае, як ад халеры.

o

Учэпісты, як відук.

o

Учэпісты, як пырнік.

o

Фанабэрысты, як (тая) паненка.

○

Фанабэрысты, як шляхцюк.

○

Фанабэрлівасць як кароста.

○

Фарсісты, як певень вясною.

○

Фарсісты, як на кірмашы.

○

Фігурысты, як артыст.

○

Фіранка як павуцінка.

○

Хавае (глядзіць), як вока.

o

Хаваецца, як мыш пад венік.

o

Хаваецца, як сабака ад мух.

o

Халодны, як жалеза на марозе.

o

Халодны, як лёд.

o

Хапіўся, як за цёплы хлеб.

o

Харошая, як вясна.

o

Харошая, як кветка.

o

Харошая (прыгожая), як краснапёрачка.

o

Харошы, як люлька за тры грошы.

o

Харошы, як цукерка за два грошы.

о

Хата як ваўкаўня.

о

Хата як жаўток.

о

Хата як звон.

о

Хата як лялька.

о

Хата як палянка.

о

Хата як у вяночку.

о

Хата (хатка) як шклянка.

о

Хата чужая, як свякруха ліхая.

о

Хаўкае, як рыба ў прыдуху.

о

Хітры, як вавёрка.

о

Хітры, як варожка.

o

Хітры, як злодзей.

o

Хітры, як ліс.

o

Хітры, як рабін.

o

Хітры, як чорт.

o

Хлопец як агонь.

o

Хлопец як дуб.

o

Хлопец як камель [моцны, прысадзісты].

o

Хлопец як лут.

o

Ходзіць (надзьмуты), як індык.

o

Ходзіць, як абмоклы.

o

Ходзіць, як без галавы.

o

Ходзіць, як блудная авечка.

o

Ходзіць, як ведзьма на таўкачах.

o

Ходзіць, як нежывы.

o

Ходзіць, як не сваімі нагамі.

o

Ходзіць, як па брытвах.

o

Ходзіць, як пава.

o

Ходзіць, як пан.

o

Ходзіць, як п'яны.

o

Ходзіць, як расамаха [страшэнная міфічная істота].

o

Ходзіць, як смерць.

o

Ходзіць, як цвічок.

o

Ходзіць, як цень.

o

Ходзіць, як чорная хмара.

o

Ходзяць (жывуць), як злыганыя.

o

Холадна (у хаце), як у ваўкаўні.

o

Холадна, як у студні.

o

Хораша, як на карцінцы.

o

Хораша, як у бабульчынай (бабчынай, бабулінай) казцы.

o

Хочацца, як багатаму памерці.

o

Хочацца, як мядзведзю мёду.

o

Храпе, як карчы дзярэ.

o

Худы, як дошка (як смык).

o

Худы, як мыш з царквы.

o

Худы, як таран (як рак).

o

Хутка, як маланка спаліла.

o

Хутка, як пяро спаліць.

o

Хутка, як слова мовіць (казаць).

o

Хутка пранёсся (праймчаўся, прабег), як стронга (як рыба).

o

Хуткі (шпаркі), як стронга.

o

Цахкае, як воўк зубамі.

o

Цацкаецца, як з велікодным яйкам.

o

Цвёрда, як на камені.

o

Цвёрда, як на карэнні.

o

Цвёрды, як дрот.

o

Цвёрды, як камень.

o

Цвёрды, як костка (косць).

o

Цвёрды, як сталь.

o

Цвёрды, як храпа.

o

Цемра, як у коміне.

o

Цвіце, як дзяцеліна.

o

Цвіце, як васілёк.

o

Цвіце, як кветка (як краска).

o

Цвіце, як макаўка (як мак).

o

Цвіце, як ружа.

o

Цесна, што і яблыку няма дзе ўпасці.

o

Цесна, як на чужыне.

o

Цесна, як у бочцы.

o

Цесна, як у труне.

o

Цёмна, як у коміне.

o

Цёпла, як за пазухаю.

o

Цёпла, як на печы.

o

Цёпла, як у багатыра (як у багатага) у кішэні.

o

Цёпла, як у выраі.

o

Цікавы, як Марцін да кавы.

o

Цікуе, як воўк.

o

Цікуе, як злодзей.

o

Цікуе, як кот (мышку).

o

Ціснуцца, як прусакі ў шчыліну.

o

Ціўкае, як верабей (верабейка).

o

Ціха, як у труне (як у дамавіне, як у дамоўцы, як у магіле).

o

Ціха, як у вусе.

o

Ціхенька, як шашок.

o

Ціхі, як вада.

o

Цубкі, як луб.

o

Цыбаты, як бусел.

o

Цюгакае, як на воўка.

o

Цягавіты, як вол.

o

Цягаецца, як сабака ля разніцы.

o

Цягаецца, як хвост за лісою.

o

Цягне, як вол.

o

Цягне, як з гадамі на бацькаўшчыну.

o

Цягне, як мурашка.

o

Цягнецца, як восень.

o

Цягнецца, як сабака да разніцы.

o

Цяжка, як з воўчых зубоў вырваць.

o

Цяжкі, як волава (як калода, як камень).

o

Чакае, як вол доўбні (абуха).

о

Чакае, як ка́ня (кнігаўка) дажджу.

о

Чакае, як конь абуха.

о

Чакае, як матка дачушку з дарогі.

о

Чапляюцца, як ваўчкі за адзенне.

о

Чапурная, як свіння ў дождж.

о

Чарада, як шпакоў на сяўбе.

о

Чарнейшы за сажу.

о

Чорна, як у коміне.

о

Чорны, як асенняя ноч.

○

Чорны, як галавешка.

○

Чорны, як галка.

○

Чорны, як грак.

○

Чорны, як груган (як крук, як крумкач).

○

Чорны, як жук.

○

Чорны, як засланка.

○

Чорны, як зямля.

○

Чорны, як камінар.

○

Чорны, як ноч.

○

Чорны, як подмазка.

○

Чорны, як сажа.

o

Чорны, як смоль.

o

Чорны (рот), як у ліхога (злога, сярдзітага) сабакі.

o

Чорны, як чорт.

o

Чырвоны, як бурак.

o

Чырвоны, як гіль (як снягір).

o

Чырвоны, як жар.

o

Чырвоны, як каліна.

o

Чырвоны, як рак.

o

Чыста, як венікам вымелі.

o

Чыста, як на стале.

o

Чыста (роўна), як пасля касы.

o

Чысты, як золата.

o

Чысты, як крыніца.

o

Чысты, як крышталь.

o

Чысты, як месячык.

o

Чысты, як раса.

o

Чысты, як сонейка.

o

Чысты, як шкло.

o

Шануе, як сваю галаву.

o

Шануе, як старэнькага (як дзядулю).

o

Шапка як гняздзечка.

o

Шапка як ярмолка.

o

Шашоліць, як шашаль (як шашолка) [пра таго, хто часта і многа есць].

o

Шкада, як леташняга снегу.

o

Шкадлівы (шкодны), як кот.

o

Шкодны, як даносчык.

○

Шкодны, як пацук (як шчур).

○

Шкодны, як тхор (як шашок).

○

Шмат, як бузы́ (му́лу) у возеры.

○

Шмат, як лісічак.

○

Шмат, як шыльніку.

○

Шорсткая, як асака.

○

Шпакі, як сяўцы.

○

Шпарка, як на спутаным кані.

○

Шпаркі, як бліскавіца (як маланка, як бліскаўка).

o

Шпоры як у пеўня.

o

Шукае, як ветру ў полі.

o

Шукае, што воўк смерці.

o

Шукае, як дзвярэй у (чыстым) полі.

o

Шуміць, як у галаве ад гарэлкі.

o

Шчабеча, як птушка вясною.

o

Шчабеча, як салавей.

o

Шчабеча, як сарока.

o

Шчаслівая, як матка, унукаў дачакаўшыся.

o

Шчасця [у каго], як у казы хвост.

o

Шчасця, як у маладых.

o

Шчокі як з воску.

o

Шчокі як макаўкі.

o

Шчыры, як п'яўка.

o

Шыкуецца, як на вяселле.

o

Шыя як бычыны хвост [тонкая і доўгая].

o

Шыя [у прыгожага каня] як дуга.

o

Шыя як у артысткі [прыгожая].

o

Шыя як у вала.

o

Шыя як у лебедзя.

o

Шыя як у бусла.

o

Шыя як у зубра.

o

Шэрая, як зязюлька.

o

Шэрыя (вочы), як кацiныя.

o

Ядуць, як у церніцу труць.

○

Язык як калаўротак.

○

Язык як ляшчотка.

○

Язык як трашчотка.

○

Язык як у адваката.

○

Язык як перац.

○

Як агнём запякло.

○

Як агнём смаліць.

○

Як агню сцеражэцца.

○

Як ад быка малака.

o

Як адзін.

o

Як адным грэбенем пачасаліся.

o

Як атопкам па цымбалах.

o

Як бобам (плакала).

o

Як бобу ў гаросе шукаць.

o

Як бы яго вецер праймчаў.

o

Як былінка ў полі.

o

Як бэз увесну.

o

Як бягунка падганяе.

o

Як бярозавы ліст у лазні.

o

Як вадою згладзіла.

o

Як вадою разліўся.

o

Як ваду ў торбу ліць.

o

Як варам аблíты.

o

Як вераб'ю ўклюнуць.

o

Як ветру ў полі шукаць.

o

Як вокам маргнуў.

o

Як вон выкінуў.

o

Як воўк вільнуў хвастом.

o

Як гара з плеч спала (звалілася).

o

Як гляк.

o

Як град сыпле.

о

Як дзве кроплі вады.

о

Як дурань на памінках.

о

Як з вады выйшаў.

о

Як з вока выпаў [дакладна такі самы].

о

Як з казла малака.

о

Як з крыжа зняты.

о

Як з ланцуга сарваўся.

о

Як з маслам першая аладка.

о

Як з неба зваліўся.

о

Як з раку смаку.

о

Як з таго свету ўстаў (вярнуўся).

о

Як за акно выкінуў.

о

Як за галінку схапіўся.

о

Як за грош абаранак.

о

Як за скуру закруціў.

о

Як за сценку заскочыў.

о

Як за сябе закінуў.

о

Як за язык павешаны.

о

Як здань з таго свету.

о

Як зорак на небе.

о

Як зорку схапіў.

o

Як іскра на яго ўпала.

o

Як каза-дзераза.

o

Як каліна гарыць.

o

Як камень на шыі.

o

Як камень у ваду.

o

Як кнот (тонкі).

o

Як конь па градах.

o

Як крапіва (пячэ, пячэцца).

o

Як крапівою секанууў.

o

Як крэсівам выкрасаў.

o

Як курыца на сметніку.

o

Як лапаць сплесці.

o

Як лёду.

o

Як лістам сцеле.

o

Як май змаяваў.

o

Як маслечкам па душы.

o

Як мокрае гарыць.

o

Як мыла з'еўшы.

o

Як мыш у пастку.

o

Як мятлою (венікам) змяло.

о

Як на далоні.

о

Як на заказ.

о

Як на малюнку.

о

Як на шрубе ходзіць.

о

Як наліваныя.

о

Як нажом у сэрца.

о

Як пазычаць, то вочы як у сакала, а як аддаваць, то як у савы.

о

Як па масле.

о

Як перапечка [пра моцнае дзіця, пра падростка].

о

Як подмазку з'еўшы.

o

Як праз зямлю праваліўся.

o

Як пратонуў.

o

Як расы [пра ўраджай груш, яблыкаў].

o

Як родныя браткі.

o

Як рыба без вады (як рыба ў прыдуху).

o

Як свае пяць пальцаў (ведаць).

o

Як сыр у смятане (у масле).

o

Як сякераю ўцяў.

o

Як тры грошы даў.

o

Як у балота ўкінуў.

o

Як у гразь пляснуў.

o

Як у лужу сеў.

o

Як у млыне [грукат, пыл].

o

Як у пекле.

o

Як у процьму.

o

Як у рэшаце вады.

o

Як у сук уляпіў.

o

Як у трасцы кідае (трасе).

o

Як у шчопці ўзяць.

o

Як цені (снуюцца).

o

Як цукар у вадзе (растане).

o

Як чорт носіць.

o

Як чорт пугаю пазганяў.

o

Ясны, як золата.

o

Ясны, як зорачка.

o

Ясны, як сонейка.

o

А вы, людзі багатыя, як чэрці лазатыя.

о

А нявеста са мною, як гром з маланнёю (з маланкаю).

о

А першая жоначка як на небе зорачка, як у небе зорачка.

о

А той конічак — вельмі шкоднічак, вытаптаў рутку, як пастаўнічак.

о

А трэцяя жанішча як у лесе савішча.

о

А ўчора была я дзяўчынаю, а сёння стала маладзіцаю; учора была — як ружа цвіла, а сёння стала — як ружа вяла.

о

А я пагуляю, як белая лябёдачка па ціхім Дунаі.

○

Абліўся слёзкамі, як лужок вадою.

○

Абсядуць цябе дзеткі, як калінанчку (каліну) кветкі.

○

Адзін конік, як лебедзь, бяленькі (беленькі), другі конік, як голуб, сіве́нькі (сівенькі), трэці конік, як воран, чарненькі (чорненькі).

○

Адкроіць хлеба [гаспадыня служцы] ценька, як кляновы лісток.

○

Адчыні, свякроўка, ваконца, вязуць табе нявестку, як сонца.

○

Астаюся, як у полі каліна.

○

Блукаецца як аўца.

○

Брат воўкам вые, што сам лыжкі мые.

о

Буду глядзець, як на сакала.

о

Будзь здаровы, як зімою вада, будзь багаты, як улетку зямля.

о

Буду шанаваць, як кветачку.

о

Бяры мяне маладую, як вішаньку садавую.

о

Бяры сабе жонку-любку, цалуй яе, як галубку.

о

Ва ўдавы сэрца як зімою сонца, а ў дзеўкі сэрца як вясною сонца.

о

Віўся каравай клубком пад зялёным дубком.

о

Войска як чорная хмара.

о

Вочкі ж мае, вочкі — як у сака-
лочкі.

о

Выйшаў за вароты ды стаў, як сі-
рота.

о

Выслужыў каня, як арла.

о

Высушыў маю галовачку, як вей-
ны ветрык дубровачку.

о

Вязём табе нявестку, як явар.

о

Гаспадарочак як сакалочак.

о

Гіне, як лісточак на каліне.

о

Глянь у ваконца, на ўсход сонца:
у тваім двары, як у раі.

о

Горка тую каліначку едучы́, яшчэ
горай з п'яніцай жывучы.

о

Грошы, як сліна, прапалі.

o

Гуляе сівы конь, як віхор, нясецца.

o

Дзе каза нагою, там жыта капою.

o

Дзе каза рогам, там жыта стогам.

o

Дзесь маё дзіцятка, як на моры вуцятка.

o

Дзеткі як у гародзе (садзе) кветкі.

o

Дзяўчатачкі як паненачкі, а хлопчыкі як панічыкі, маладзічкі як лябёдачкі.

o

Дзяўчына лягала, як з ружы цвяточак, дзяўчына ўстала, як белы платочак.

o

Дзяўчыначка (дзяўчынанька), як рыбачка (рыбанька), уецца.

o

Дробны пташачкі, як мурашачкі, па дарожачцы скачуць.

o

Едзе мая нявехна, як зара.

o

Жаніх на куце як залаты пярсцёнак на руцэ.

o

Жаночкі як перапялочкі (жоначкі як перапёлачкі).

o

Жнейкі ідуць, як пчолкі, гудуць.

o

Жонка сядзіць, як свечка гарыць, дзяціна плача, як рыба скача.

o

Завяў казак, як ружова кветка.

o

Збоку ў яго шабелька, як агонь, блішчыць.

o

Зязюляю кавaць [кукаваць] буду, салавейкам шчабятаць буду.

о

Ідуць дзевачкі, як снежныя паненачкі.

о

Ідуць жоначкі (жаночкі), як белыя лябёдачкі.

о

Казалі: Іванька харошы, прыгожы, аж яго прыгаство ды звычайнае: нос капылом, барада кляўцом.

о

Каго няма [на свята Купалле] на вуліцы, палажы таго калодаю, калодаю дубоваю, дзетак яго цельпучкамі, цельпучкамі альховымі, лянок яго травіцаю, травіцаю павіліцаю.

о

Калі ў агні згарэла [ліхая доля], ляжы папяльцом, калі ў моры ўтапілася, ляжы камянцом.

о

Кліч, пакліч, міленькі, голуб мой сівенькі, пайду за табою рыбкай за вадою.

о

Кроў палілася рэчанькаю.

о

Лепей буду, лепей буду гаранькі капаці, ніж з нямілым, з нехарошым сесці размаўляці.

о

Лепей буду, лепей буду горкі чэмер піці, ніж з нямілым, з нехарошым аж да смерці жыці.

о

Лепей было ў сваім доме на сухой драбіне, ніж у чужое маладзіцы на белай пярыне.

о

Лепей дома хлеб аўсяны, як на вайне пытляваны.

о

Лепей, мая маці, буду рэдзьку есці, як з нялюбым, з нехарошым ды за столікам сесці.

о

Лепшая вада ў крыніцы, як мёд-віно ў шкляніцы, лепшая ў бары ягадачка, як у караля выгадачка.

о

Лічка невялічка, як у садзе яблычка, сама як каліна.

о

Лічка як яблычка, як чырвона ружа.

о

Любіліся, кахаліся, як галубкі.

о

Любіў хлопец дзяўчыначку (дзяўчынаньку), як голуб галубку.

о

Люблю так, як душу.

о

Ляжыць мілая, як лебедзь беленькі (бяленькі), сядзіць мілы, як воран чорненькі (чарненькі).

о

Ляжыць мілы, як пень гнілы, а я над ім, як дзень белы, ляжыць мілы, як калода, а я над ім, як ягода.

о

Ляжыць жанаты, як пан багаты.

○

Ляжыць халосты, як сабака бясхвосты.

○

Маё сэрданька як нажом крае [кроіць].

○

Манюсечка выйшла, як зорачка ўзышла, Манюсечка стала, як вішанька звяла.

○

Матачка (матанька) паглядае, як боб слёзачкі (слёзанькі) раняе.

○

Матка мая старэнькая, як галубка сівенькая.

○

Матка плача, як звон звініць, татка плача, як гром грыміць, сястра плача, як зязюлька кукуе, братка плача, як салавейка свішча.

○

Мая пасцеленька як зім зімненька.

o

Мая прыгода як зімовая (зімняя) вада, як летняя раса.

o

Мая ўрода як ціхая вода, ліцо маё белае-румянае, як чырвоная ружа.

o

Між дзевачкамі мая панна ходзіць, а як загаворыць, то як звон зазвоніць, а як заспявае, аж гай разлягае.

o

Мне твайго пасагу не трэба: ты мне як зорачка з неба.

o

Мой свёкарка ідзе, як вядзьмар гудзе, мая свёкерка [свякроўка] ідзе, як ведзьма гудзе, мая мамачка ідзе, як галубка гудзе, а мой мілы ідзе, як голуб гудзе.

o

Мы жыць будзем, як галубочкаў двое.

о

Мы з табой, міленькі, як у садзе вішні.

о

Мы кахаліся, мы любіліся, як ластаўкі ў стрэсе.

о

Мы пасыплем свату канапель: дзяўбі, наш сватка, як верабей.

о

Мы шчабяталі, як салавейка ў ціхім лузе.

о

Мяне маладую, як ягаду, з розуму зводзіш.

о

На маім дварэ штодзень ваду бярэ, маё сэрцайка як сахой арэ.

о

На ніве жоначкі, як званкі, звіняць.

о

Напаіла б дружка, як чмяля.

○

На пасадзе села, як ружа, цвіла, з пасаду ўстала, як рута, звяла.

○

На полі жоначкі, як пчолкі, звіняць.

○

Нараджона як ягодка (ягадка), пасаджона як сіротка.

○

Настаўлялі копак (бабак, мэдляў), як на небе зорак.

○

Наш каравай як кола, гусачкі як кубачкі, як у лесе пралескі, як на небе зорачкі.

○

Наша маладая, як сыр, белая, ваш малады як пень абгарэлы; наша маладая як суравешка, ваш малады як галавешка; наша маладая як ластаўка, ваш малады як

засланка; наша маладая як з золата, а ваш малады як долата.

о

Нашы коні знакамітыя: у першага каня калясом грыва, у другога каня кубкам капыт, а ў трэцяга каня кубкам капыт, калясом грыва.

о

Нашы маладыя як заранькі ясныя.

о

Не аддай мяне, маці, за старога: з старым ночку начаваці, як за гнілой калодай паляжаці.

о

Не аддай мяне, маці, за малога: з малым ночку начаваці, як рыбачцы пад лёдам прастаяці; ты аддай мяне, маці, за роўнага: з роўным ночку начаваці, як салавейку ў садочку шчабятаці.

о

Не шкадуй, пане, бочку мядочку: нажалі жыта так, як лядочку.

○

Нізенька, як матульцы, пакланіцца.

○

Ночку начавала, як птушачка ў садочку шчабятала.

○

Нявестка як сонца.

○

Нявестка як явар.

○

Няма цвету найкраснейшага, як сінь васілёчак.

○

Ой, дай, божа, добрую долю: свёкарку — як бацяньку, свякроўку — як маценьку; дзеверка — як браценьку, залоўку — як сястрычку.

○

Ой, зяцю, зяцю, узяў ты дачку, як маліначку, і ссушыў яе, як быліначку.

○

Павяжам малодку, як белую лябёдку.

○

Паглянь, матка, на ваконца, едзе тваё дзіця, як сонца.

○

Пакацілася галовачка, як макавачка, вылецела душа з цела, як ластавачка.

○

Пакінулі, як гусачкі паплынулі.

○

Паліліся слёзанькі расою.

○

Па-над вёскай песня льецца, як рака бурлівая.

○

Папрыходзіць сюды шмат, як маліначак, дзяўчат.

○

Парай, парай, дзяўчыначка, як родная маці.

○

Плавае [сват] па хаце, як таран, лыпае вачыма, як баран.

○

Прапаў мой век, як макаў цвет.

○

Прыбраная, як панятанька, а пасаджоная, як сіротанька.

○

Прыехаў міленькі (міле́нькі), як дзень беленькі (бяленькі).

○

Рабіна як жар гарыць.

○

Разлучыла нас з табою, як рыбаньку з вадою.

○

Расстаёмся, як ягадкі ў лесе.

○

Расці, расці, сястра (сёстра), як у бары сасна (сосна).

○

Расцвіці ты, горкая доля, рознымі цвятамі.

○

Салавейка: «О так, о так!» А ў мяне слёзкі як дробны мак.

○

Сам паеду далёка на Украіну, а цябе спакіну, як у полі быліну.

○

Сама на чужыне як былінка ў полі.

○

Сама як ягада, як ягадка баравая, як вішанька ды садавая.

○

Сваточкі як мак цвітуць.

○

Сеў на каня, як арла.

○

Скача [сват] на вяселлі, як белка,— хоча маладзіцца, як дзеўка.

○

Слухаць не хоча і, як ведзьма, сакоча.

○

Спаткаліся, абняліся, як малыя дзеці.

○

Спяку каравай — як месячык, а гусачкі — як зорачкі.

○

Стала тонкая, як былінка, а белая, як ліпінка.

○

Стаіць дзеўка як маліна.

○

Стану пры даліне — паліліся слёзы, як раса з каліны.

○

Стану пры дарозе — паліліся слёзы, як раса з бярозы.

○

Станчэла, як тая віціначка.

○

Стары́ старуга́, ты сагнуўся, як дуга.

○

Сядзела дзевачка за сталом ды сыпала слёзачкі (слёзанькі) ру-

чаём, на яе матачка паглядае, як боб слёзачкі (слёзанькі) раняе.

о

Сядзіць, лыпае вачыма, як галодная сава.

о

Свае вочы свецяць, як зоры ўночы.

о

Такая, як каліна чырвоная.

о

Топчацца, як падвучаны (навучаны) мядзведзь.

о

Трэба жонцы наравіць, як сівай (сівой) галубцы.

о

Ты ў мяне як зоранька ў небе ясная.

о

У маладога сем кароў, як зуброў.

о

У тваім двары, як у вянку.

о

У тваім двары, як у раі.

o

Убогая сірацінка як у садзе вішня.

o

Узыдзі, мая доля, густымі кустамі.

o

Умыюся, прыбяруся, як чырвоная ружа.

o

Узяў дзеваньку-малалетку, пасадзіў каля сябе, як кветку.

o

Хадзіла мамачка (матачка, матулечка, матулька, матуленька), як пава, і радзіла цябе, як пана.

o

Хадзіла па садочку, як каралёўначка.

o

Ходзіць дзяўчына па новых сенях, як паўка.

o

Ходзіць па румочку, як каралёўна.

o

Ходзіць сваха па сенажаці, як індык.

o

Храбруе [сват], як індык.

o

Цела маё, як папера, бела.

o

Цераз вуланьку іду, як зязюленька, гуду.

o

Цяклі слёзы з маёй мамачкі ракою.

o

Цяклі слёзы з маёй мамачкі ручайком.

o

— Ці здаровая дзевачка тут у вас? — Здаровая, здаровая, як зіма, вясёлая, вясёлая, як вясна, рабочая, рабочая, як лета, багатая, багатая, як восень.

o

Ці зорачка, ці зорачка? Маладая Аксінечка вуліцаю йшла цёмненькай хмарачкай, а к двару прыйшла дробненькім дожджыкам, па двары пайшла ясненькай зорачкай, у сені ўвайшла шэранькай качачкай (вутачкай), у хату ўвайшла шызенькай павачкай, за стол села каханенькай паннначкай.

○

Чужая хатачка як ліхая мачаха.

○

Чужыя жоначкі як перапёлачкі.

○

Шабелька, як агонь, блішчыць, на галоўцы шапачка снегам зіхаціць.

○

Шабелькі як іскаркі.

○

Шапачка як жар гарыць.

○

— Я да цябе, мілая, сокалам лячу.— Я да цябе, мілы мой, перапёлачкай.

○

Я, малада,— як ягада, маё лічка — як яблычка.

○

Я п'ю, я і гуляю, як тая рыбінка сярод Дунаю.

○

Я расла невялічка, як у садзе грушка-дзічка.

○

Я, як ягада, цвіла.

○

Яго барада як на вуліцы смецце, а я, малада, як калінaчка (калінанька) ў цвеце.

○

Як ведзьма (свякруха), сакоча.

○

Як пайду я па Дунаі, як рыбачка, пагуляю.

○

Як рыбцы без вады, так мне, маладзе, жыці без радні.

○

Як я была ў баценьківі, то й была хароша, а цяпер у свёкара — як белая бяроза.

о

Як я ў таткі была, як я ў матаньці была, як ружа ў садзе цвіла.

о

Яна загаворыць, як у званок зазвоніць, яна заспявае, як на скрыпцы заграе.

о

Яна скажа, як птушачка зашчабеча.

о

## РАЗДЗЕЛЫ СЛОЎНІКА

На белорусском языке

*Янковский Федор Михайлович*

БЕЛОРУССКИЕ НАРОДНЫЕ СРАВНЕНИЯ

Краткий словарь

Рэдактар А. І. Марчанка
Афармленне В. М. Валянтовіча
Тэхнічны рэдактар Г. М. Раманчук
Карэктар А. С. Глікман

АТ 17085. Здадзена ў набор 10/IV 1973 г. Падпісана да друку 18/X 1973 г. Папера 60×90 1/64 друк. № 1. Друк. арк. 3,75. Ул.-выд. арк. 4,53. Аўт. арк. 2 л. Выд. № 71—44. Зак. 185. Тыраж 4000 экз. Цана 33 кап.

**Выдавецтва «Вышэйшая школа»** Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Рэдакцыя літаратуры па філалогіі, культуры і мастацтву. Мінск, вул. Кірава, 24.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, вул. Чырвоная, 23.

